

# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Як не намагаецца ўлада аддаць людзям зробленыя імі грошы – нічога ў яе не атрымліваецца. 2 мільярды рублёў, нібы чугунныя вагі, вісяць над вобласьцю апошнія месяцы. Як сплоцяць нешта вяскоўцам, будаўнікі патрабуюць, як аддадуць будаўнікам, настаўнікі і мэдыкі нэрвова хвалююцца. Вось і на апошнім паседжаньні аблвыканкаму чыноўнікі вырашалі, як быць. Дзяліць ірваную коўдру дзіравага бюджэту, прымушаць банкі выдаткоўваць крэдыты – можна, але нельга падмануць самое рэальнае жыцьцё. Бо тут патрабуюцца рэальныя ж грошы. А іх наша эканоміка зарабляць ня ў стане.

Чарговы год у Магілёве праходзіць фэстываль "Залаты шлягер". Ёсьць нешта сымбалічнае ў тым, што пасьпяховасьцю і шматлюднасьцю вызначаецца менавіта гэтае вынаходніцтва абласной філярмоніі. (А не, напрыклад, "Магутны Божа"). Фэст духоўнай музыкі стараньнямі ўлады за некалькі гадоў непазнавальна зьмяніў сваё аблічча, і зараз амаль забыты. Затое квітнее "Шлягер", у якім ажываюць фарбы савецкага жыцьця. Настолькі ж несапраўдныя, наколькі несапраўднымі былі шчырасьць і посьпех тагачаснай савецкай эстрады.

На 42,4% вырасла колькасьць разбойных нападаў, на 10% – парушэньняў на глебе п'янства і рэцыдыўная злачыннасьць. Людзі бяднеюць, разбураецца маральнасьць, ва ўсім пачынае ізноў панаваць усеагульныя страх і няпраўда. Магілёўскія пракуроры на сваёй калегіі з гэтай нагоды лаялі нячэсныя чынавенства, крытыкавалі грамадзянаў, што патураюць злачыннасьці. Але, калі саміх пракурораў улада прымушае парушаць законы, як толькі заходзіць гутарка пра "палітычныя справы"... А людзі ж добра гэтае бачаць дый самі спакушаюцца на тое ж – парушыць закон.

Невядомыя злачынцы абрабавалі вайсковую базу. Праўда, гутарка ня йдзе пра крадзёж ядзернай зброі ці вялікай партыі дынаміту. Зьнесьлі радыётэхнічнае абсталяваньне "усяго" на 5000$. Калі загадчыца сховішча зранку прыйшла на працу, то ўбачыла расчыненыя дзьверы і пустыя скрыні. Міліцыя лічыць, што ў злачынстве ўдзельнічалі ахоўнікі. Што казаць, цяжка захаваць нейкую радыётэхніку. Можа, калі вы чытаеце гэтыя радкі, хто-небудзь крадзе з вайсковай базы штосьць больш небясьпечнае, скажам, баявы танк... Хто дасьць гарантыю, што такое здарэньне ў нашым войску немагчымае?

У Бабруйску амаль тры дзясяткі дамоў некалькі дзён ня мелі цёплай вады і ацяпленьня. Прарвала трубы. Пашчасьціла, што на вуліцы было цёпла, дык людзі не памерзьлі. Прычыны здарэньня дужа трывіяльныя: уся камунальная інфраструктура, ад каналізацыі да ацяпляльных вадаправодаў, ужо даўно адпрацаваная. Але замяніць яе няма за што. Патрабуюцца мільярды, якіх у бюджэце няма. Мясцовы гарвыканкам правёў па сьлядох аварыі з трубамі экстранае паседжаньне. Рашэньні прынялі правільныя, загады аддалі рашучыя. На жаль, трубы загадаў ня слухаюць.

Пазбаўленая свайго офісу магілёўская філія Фонду падтрымкі рэформаў імя Льва Сапегі. Памятнае выказваньне Лукашэнкі: "А таварыш Сапега пусть падаждёт" увасобілася ў нашым горадзе. Паказальна, што для такіх цалкам савецкіх арганізацыяў, як Таварыства аховы прыроды альбо аддзяленьне Фонду міру, месца знаходзіцца. А нават дужа стрыманую – у палітычным сэнсе – аднак паўстаўшую з прыходам незалежнасьці сапегаўскую філію офісу пазбавілі.

У нас умеюць і хутка працаваць. Асабліва, калі гутарка ідзе пра нешта "сур'ёзнае". Нядаўна непадалёк ад будынку КГБ каналізацыйны люк прабіла. Фекаліі як з гейзэру ліліся, ствараючы асабліва творчыя ўмовы для нашчадкаў жалезнага Фелікса. Натуральна, што камунальшчыкі вырашылі праблему за найкароткі тэрмін. Выклікае сум, што ў іншых выпадках каналізацыйныя аварыі сэрцы камунальных начальнікаў не кранаюць.

Вось лічбы, якія афіцыйная статыстыка хоць і друкуе, але кожнага разу вельмі неахвотна. За 9 месяцаў народная гаспадарка згубіла амаль 830 тысячаў "чалавекадзён", гэта больш, чым на 10% перавышае паказчыкі мінулага году. На 5% зьменшылася рэнтабельнасьць, амаль удвая меншыя аб'ёмы будаўніцтва. У прамысловцаў забіраюць сёлета ажно 20% даходаў на падаткі. Дададзім яшчэ пра падзеньне колькасных паказчыкаў у сельскай гаспадарцы, пра чарговую масавую рэалізацыю буйнога ската на мяса, – і карціна паўстае дужа рэалістычная: крызыс.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

# Верагоднасьць у кантэксьце надзеі

***На момант, калі пішацца гэтая нататка, вынікі выбараў у ЗША нам не вядомыя. Аднак выбарчая інтрыга больш тычыцца саміх амэрыканцаў.***

Для нас важна толькі тое, што перамога любога (а лепш бы Джорджа Буша!) на амэрыканскіх прэзыдэнцкіх выбарах усяляе новыя надзеі ў беларускіх незалежнікаў. Надзеі, здаецца, ня марныя, бо сусьветная палітыка робіцца менавіта ў Вашынгтоне.

Не ў Маскве, як, на жаль, упарта лічыць наш "электарат" (зразумела, з падачы самой жа Масквы), не ў Парыжы ці Лёндане, а менавіта ў сталіцы ЗША. Хаця Расея робіць значны, нярэдка вырашальны ўплыў на Беларусь, сама яна шмат у чым залежыць ад ЗША і Захаду як такога. Адсюль і беларускія надзеі на добрыя перамены ў нашай стомленай краіне.

Апошнія 10 год заходні сьвет, а найперш Амэрыка, ачмураныя ілюзіяй хуткіх і канчатковых дэмакратычных рэформаў у Расеі, укінулі ў гэтую краіну мільярды даляраў. Яны аселі ў крымінальнай эканоміцы, а таксама дазволілі Маскве захоўваць свой небясьпечны ўплыў на некаторыя каўказкія і сярэдне-азіяцкія постсавецкія краіны, весьці вайну ў Ічкерыі і фактычна поўнасьцю падначаліць сабе Беларусь.

Пра гэта не адразу, але паступова пачалі пісаць амэрыканскія газэты, аб гэтым пачалі запытваць свой урад амэрыканскія падаткаплацельшчыкі. Да ўсяго заакеанскае грамадзтва патрабавала ад ураду больш надзейнай ядравай абароны.

Практычна абодва кандыдаты пад ціскам выбаршчыкаў зрабілі нямала абяцаньняў аб тым, што стаўленьне да Расеі з боку ЗША стане больш прагматычным, чым тое было пры Клінтане, а ў пэўнай ступені нават больш жорсткім.

Магчыма, што ў такіх варунках для дэмакратычнай Беларусі ёсьць шанец перахапіць у прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі палітычную ініцыятыву і павярнуць краіну да волі і адкрытасьці, дэмакратыі і прыстойнасьці. Гэта становіцца верагодным пры тым, што ў ЗША Дж.Буш – без ваганьняў, а А.Гор пад націскам Кангрэсу і Сэната, дзе большасьць захоўваюць за сабой рэспубліканцы, больш не падпадуць пад крамлёўскі гіпноз. А гэта будзе на шчасьце: дзеля самой Амэрыкі, дзеля нас і, як тое ня дзіўна на першы погляд, дзеля той жа Расеі.

Зразумела, што дасягнуць добрых пераменаў у нашай краіне трэба і належыць самім.

***Рэдакцыя "ТМ"***
***(у матэрыяле скарыстанае меркаваньне зь ліста В.Макаранкі і думкі іншых чытачоў)***





# Адкуль узяцца добраму настрою

***У Менску адбылося паседжаньне страйкавага камітэту прыватных прадпрымальнікаў Беларусі. Было вырашана правесьці 23 лістапада на рэчавых кірмашах краіны аднадзённы папераджальны страйк.***

У паседжаньні страйкавага камітэту бралі ўдзел лідэры арганізацыяў, якія аб'ядноўваюць прадстаўнікоў дробнага бізнэсу. Такія арганізацыі створаныя "чаўнакамі" у дзясятках гарадоў Беларусі, і пераважная большасьць іх увайшла ў склад мясцовых прафсаюзаў. "Чаўнакоў" згуртавала агульная пагроза. Калі раней прадпрымальнікі былі вызваленыя ад мытнага афармленьня тавараў трэціх краінаў, якія ўвозяцца ў Беларусь з тэрыторыі Расеі, дык цяпер, з 1 кастрычніка, кітайскія, турэцкія або індыйскія тавары абкладаюцца мытамі й падаткам на дадзеную вартасьць. Калі, напрыклад, імпартныя рэчы каштуюць 100 даляраў, дык у адпаведнасьці з новаўвядзеньнем, прадпрымальнік мусіць дадаткова выплаціць дзяржаве 40 даляраў. Парушэньні караюцца штрафам ад 100 да 500 мінімальных заробкаў.

На паседжаньні быў выказаны намер каардынаваць дзеяньні рэгіянальных і сталічных гандляроў з мэтаю прымусіць улады скасаваць мытныя новаўвядзеньні. 23 лістапада па краіне пройдзе адпаведны аднадзённы папераджальны страйк, ідэю якога падтрымала абсалютная большасьць беларускіх дробных гандляроў. У некаторых месцах страйкі ўжо нават пачаліся, аднак пакуль яны адбываюцца стыхійна і няўзгодненна зь іншымі гарадамі. Каб грунтоўна падрыхтаваць акцыю, зараз пачнецца актыўная справа па ейнай падрыхтоўцы.

На паседжаньні страйкаму прагучала таксама, што калі ўлады ня выканаюць патрабаваньні гандляроў, тыя адкажуць іншымі акцыямі пратэсту. У прыватнасьці, мяркуецца з 1 студзеня 2001 году спыніць выплату плацяжоў у бюджэт ды абвесьціць па ўсёй краіне аднамесячны страйк.

***Міхал СТЭЛЬМАК***

***P.S. Па зьвестках "ТМ", прадпрымальнікі абласнога цэнтру і Бабруйска праз свае прафсаюзныя аб'яднаньні далі згоду на арганізацыю ўзгодненых выступаў прыватнікаў. Нагадаем, што ў Магілёве своеасаблівая вайна ўлады з прадпрымальнікамі ідзе доўгі час. Апошні яе эпізод – скасаваньне дазволу на шапікавы гандаль у цэнтры гораду. Настрой прыватнікаў пагоршыўся таксама ў выніку "добраахвотнага зьняцьця" зь нядаўняй выбарчай гонкі сваіх кандыдатураў вядомымі прадпрымальнікамі Нізаўцовым і Шухманам.***

## БЕЛАПАН для «ТМ»

**3-6 лістапада адбылося першае доўгае спатканьне Тацяны і Андрэя Клімавых у калёніі ўзмоцненага рэжыму УЖ 15/1, што на Кальварыйскай вуліцы ў Менску.**

Дэпутат Вярхоўнага Савета XIII скліканьня, прадпрымальнік Андрэй Клімаў быў пераведзены ў гэтую калёнію 15 верасьня пасьля больш чым двух з паловай гадоў утрыманьня ў сьледчым ізалятары. У сакавіку 2000 года ён быў асуджаны да 6 гадоў пазбаўленьня волі.

Паводле Тацяны Клімавай, яе муж добра трымаецца. Ён упэўнены ў сваёй невінаватасьці й лічыць, што ўлады абсалютна незаконна трымаюць яго ў зьняволеньні. Разам з тым жонка дэпутата адзначыла, што няволя істотна падарвала здароўе мужа. "Па ўмовах утрыманьня я лічу, што гэта тыповы канцлягер нашых дзён. Пасьля спатканьня ў мяне проста разрываецца сэрца", – сказала яна. Адзіная надзея Клімавых зараз – гэта цьвёрдая пазыцыя сусьветнай грамадзкасьці, якая настойвае на вызваленьні палітычных зьняволеных у Беларусі.

Адрас Андрэя Клімава: 200600, Менск, вул. Кальварыйская, 36, паштовая скрынка 35, 13-ты атрад.

●

**Як паведаміла прэс-служба Маладога Фронту, 7 лістапада актывісты арганізацыі правялі на плошчы Незалежнасьці ў Менску акцыю пратэсту.**

Падчас ускладаньня кветак Леніну прадстаўнікамі дзьвюх камуністычных партыяў, 10 актывістаў МФ падыйшлі да месца падзеі зь невялікімі плякатамі, на якіх была пазначаная назва, дата і месца збору на акцыю "Пераменаў!" Яны некалькі разоў праскандавалі: "Беларусь без камунізму!", а затым імкліва сышлі. Ніхто з удзельнікаў акцыі ня быў затрыманы.

●

**Каля 2-х тысячаў подпісаў у падтрымку патрабаваньняў родных і сваякоў тых, хто загінуў 30 траўня 1999 года ў падземным пераходзе на станцыі мэтро "Няміга", сабралі 4 лістапада ўдзельнікі адмысловага пікету.**

У пікеце ўзялі ўдзел дзясяткі бацькоў, блізкіх і знаёмых загінуўшых маладых людзей, а таксама сябры праваабарончых арганізацыяў "Вясна" і "Прававая дапамога насельніцтву". Удзельнікі акцыі патрабавалі ад уладаў ушанаваць памяць загінуўшых, спыніць зацягваньне сьледзтва па высьвятленьню прычынаў трагедыі. "Мы спадзяемся дажыць да часу, калі на месцы гібелі будзе ўстаноўлены храм або капліца, а гэтыя крывавыя пріступкі – месца гібелі – будуць ізаляваныя", – заявілі пікетчыкі ў адмысловым звароце. Бліжэйшым часам тэкст гэтага дакумэнту мяркуецца апублікаваць у сродках масавай інфармацыі.

## БЕЛАПАН для «ТМ»

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ..з Крычава



***Неаднаразова ў мінулым годзе на Крычаўскім заводзе гумавых вырабаў успыхвалі стыхійныя страйкі, вынікам якіх можна назваць зьмену кіраўніцтва завода і павольнае звальненьне актыўных "крыкуноў"...***

2-га лістапада ў заводзкім клюбе адбылася сустрэча працоўнага калектыва (на 99% гэта былі жанчыны) з новым кіраўніком раённай "вэртыкалі" І.Пракопавым і новаабраным дэпутатам Палаты ад Крычаўскай выбарчай акругі А.Чачорам.

Высокія чыноўнікі прыехалі разам на сьціплым службовым УАЗіку і адразу паабяцалі бітком набітай залі ўсемагчымую падтрымку. У сваіх вытупах рабочыя скардзіліся на злоўжываньні дрэнных кіраўнікоў і стратны бартэрны гандаль з Расеяй. Сярод высунутых імі патрабаваньняў асноўнымі былі зьмена кіраўніцтва, незалежнае дасьледваньне фінансовай дзейнасьці прадпрыемства, спыненьне бартэрных апэрацыяў, адтэрміноўка выплаты запазычанасьцяў за энэрганосьбіты і неадкладнае аказаньне дапамогі заводу на самым высокім узроўні. Сярэдні заробак па цэхах, па словах узрушаных жанчын-працаўніцаў, складае сёньня прыкладна 20 тыс. рублёў, а ня 40 тыс., як падаецца на старонках "Ленінскага кліча". Адна з найбольш эмацыянальных выступоўцаў, каб даказаць безвыходнасьць сытуацыі, нават прапанавала ўсёй залі стаць на калені перад высокімі гасьцямі...

І.Пракопаў прылюдна паабяцаў "ва ўсім разабрацца", а таксама запрасіў да сябе на прыём двух "гумаўцаў", якіх рабочыя стыхійна вылучылі на кіруючыя пасады.

***Днямі Крычаў наведалі прадстаўнікі швэцкіх прафсаюзаў і сацыял-дэмакратычнай партыі з гарадоў Оскархамн і Мёнстэро.***

Госьці сустрэліся зь мясцовымі сацыял-дэмакратамі і сябрамі грамадзкіх арганізацыяў. Падчас сустрэчы кожны з бакоў падзяліўся сваімі дасягненьнямі і вопытам працы. Пасьля швэды зьдзейсьнілі азнаямляльную экскурсію па нашаму гораду. Яны наведалі палац Пацёмкіна і цэнтральную гарадзкую плошчу зь цікавым спалучэньнем царквы і помніка Леніну. Падчас экскурсіі госьці фатаграфавалі "ганаровую дошку перадавікоў" і дужа сьмяяліся над ёй. Вялікую ўвагу прыцягнула да сябе таксама т.зв. Швэцкай горка, што непадалёк ад Маляцічаў. У 1708 годзе, падчас руска-швэцкай вайны, тут амаль месяц разьмяшчаўся лягер караля Карла XII. Аднак самае моцнае ўражаньне пакінуў волат беларускай прамысловасьці – АТ "Крычаўцэмэнтнашыфэр". Госьці доўга не маглі зразумець, як на пачатку XXI стагодзьдзя ў цэнтры Эўропы можа існаваць такое бруднае, дапатопнае і жахлівае прадпрыемства...

### ...з Чэрыкава

***Днямі мясцовы цэнтар гігіены і эпідэміялёгіі агучыў цікавыя лічбы, датычныя якасьці пітной вады на Чэрыкаўшчыне.***

Па словах памочніка галоўнага доктара вышэйназванай установы Н.Лаўрэнавай, норма ўтрымання жалеза ў вадаправоднай вадзе значна перавышаная амаль на ўсёй тэрыторыі раёна. Максымальна дапушчальны узровень – 0,3 мг жалеза ў 1 літры вады – на асобных артэзіянскіх сьвідравінах перавышаны ў 4-8 разоў. Прычына – скрайняя зношанасьць вадаправодных трубаў і адсутнасьць станцыі абезжалезваньня. На выпраўленьне становішча няма грошай, з чаго вынікае, што ўжываць шкодную вадзіцу чэрыкаўцы будуць яшчэ доўгі час.

***Андрэй КУЗЬМІН***

### ...з Глуску



***У апошні дзень кастрычніка ашчадны банк у Глуску працаваў нават уначы.***

Выдаваліся крэдыты калгасам. Гэткі спосаб пагашэньня запазычанасьцяў па заробках стаўся ўжо традыцыйным.

***На вуліцах гучаць стрэлы. Маршрутныя аўтобусы не працуюць. Малалікія прадпрымальнікі выплочваць кантрыбуцыі, што выставілі ўлады.***

У паветры – вялікі транспарант "Да здравствует Октябрьская революция". Да жыхароў зьвяртаецца раённы выканаўчы камітэт і савет дэпутатаў з словамі: "...нялёгкі пэрыяд перажываем мы зараз...". Такім чынам беларускі горад Глуск сустракае 7 лістапада 2000 году.

***Ігар КІРЫН***

### ...з Бабруйску

***2 лістапада мясцовая моладзь адзначыла сьвята шанаваньня продкаў Дзяды.***

Удзельнікі сьвяткаваньня ўсклалі вянок каля помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў і запалілі сьвечкі ў памяць аб продках, што загінулі за свабоду Беларусі.

***У чарговы (можа, ужо ў апошні) раз спынілася прадпрыемства "Шкло-Глуша".***

Аб якой рэнтабельнасьці можна весьці гаворку, калі яшчэ нядаўна запазычанасьць заводу толькі падаткавікам складала амаль 50 мільёнаў рублёў? Можна, канешне, зноў памяняць кіраўніка ў якасьці "прынятых мераў". Але й сёньняшні дырэктар працуе бяз году тыдзень...

***Напрыканцы кастрычніка ўначы былі адчыненыя і праверaныя рэвізорамі 4 сельскія крамы і кафэ.***

У выніку недалічыліся тавараў у вёсках Обча, Туркі й Кухенька. У Слабодкаўскай краме міліцыя затрымала злодзея ў момант крадзяжу. Ім аказаўся навучэнец Каменскай школы-інтэрнату. Па астатнім выпадкам вядзецца сьледзтва.

***Тацяна КОПЕЦ***

### ...з Асіповічаў

***2-га лістапада ў будынку раённага аддзелу адукацыі адбылася сустрэча юных літаратараў зь беларускімі паэтамі Алесем Пісьмянковым, Навумам Альферовічам і Віталём Гурановічам.***

Сустрэчу ладзілі мясцовае ТБМ, рэдакцыя дзіцячай літаратурнай газэты "Дарагіня" і РАА. Падчас мерапрыемства юныя аўтары чыталі свае вершы гасьцям і ўсім прысутным. Трэба адзначыць, што паэты дастаткова высока ацанілі мастацкі густ маладых асіповіцкіх талентаў. Напрыканцы імпрэзы, што прайшла ў непрымусовай, часам гумарыстычнай атмасфэры, госьці раздалі свае аўтографы, нікому не адмовіўшы.

***На асіповіцкіх АЗС ужо працяглы час адсутнічае бэнзін А-92.***

"Асіповічынафтапрадукт" ня можа набыць гэтае паліва з-за адсутнасьці грошай, якія "з'ела" сельская гаспадарка Глускага і Асіповіцкага раёнаў падчас нарыхтоўкі ўраджаю. Цяпер іхняя запазычанасьць "Асіповічынафтапрадукту" складае 250 млн. рублёў.

***Ужо месяц, як працуе ў Радуцічах адноўлены на пасадзе дырэктар мясцовай пачатковай школы С.Бародзіч.***

3-га лістапада ён атрымаў грошы за вымушаныя прагулы і маральныя страты. Незадоўга да таго па школах раёна былі распаўсюджаныя паперы за подпісам загадчыка мясцовага аддзела адукацыі І.Пузыны аб мерапрыемствах на лістапад. У іх было пазначана што Радуціцкую пачатковую школу чакае "Тэматычная праверка па арганізацыі вучэбна-выхаваўчай работы". Як вядома, такая праверка ёсьць нічым іншым, як аналізам працы кіраўніка ўстановы.

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***

## Пераменаў!

**У гэтую нядзелю па краіне распачынаецца моладзевая дэмакратычная акцыя пад лёзунгам – "Пераменаў!". У баку ад яе не засталіся палітычна актыўныя магілёўскія суполкі і згуртаваньні: Малады Фронт, Маладыя сацыялісты-хрысьціяне, моладзевая арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Заяву аб пачатку цэлай сэрыі акцыяў і выступаў супрацiву абвесьцілі А.Кавалёў, Я.Лабасенка, У.Гайдукоў.**

## Еднасьць – нібы пароль часу

Ніхто ў беларускай рэчаіснасьці не пачувае сябе спакойна і не глядзіць у заўтрашні дзень упэўнена. Свае турботы і непераадольныя цяжкасьці пэрманэнтна перажываюць палітычныя рухі і партыі, эканамічныя недзяржаўныя структуры, традыцыйныя і новыя прафсаюзы, незалежныя СМІ. Усе, хто ходзяць пад "клапатлівай рукой" рэжыму, у любы момант могуць быць панішчаныя, разбураныя, зачыненыя ці ліквідаваныя якім іншым чынам...

Апошнім часам найбольшую нелюбоў дзяржавы адчувае трэці сэктар, то бок недзяржаўныя грамадзкія арганізацыі (па ангельскай, прынятай у сьвеце абрэвіятуры – NGO). У большасьці далёкія ад таго, чым ёсьць злабадзённая палітыка, яны выклікаюць незапакоенасьць уладаў адным фактам свайго існаваньня на грунце ўнутранай дэмакратыі і правілаў жыцьця, якія па самой прыродзе сваёй прызнаюцца цяперашнім рэжымам за небясьпечныя для яго. Нездарма БТ і прэзыдэнцкія газэты ледзь не штотыднёва, на высокім эмацыйным напале (узамен фактаў) "выкрываюць" трэці сэктар.

У ім сапраўды ёсьць праблемы, абумоўленыя як вонкавымі, так і ўнутранымі прычынамі. Дыскусія аб стратэгіі NGO ў нашым рэгіёне была абмеркаваная ў мінулую суботу ў Магілёве на адпаведным сходзе. Гаворка адбылася плённай, бо была вострай і адкрытай. А ў выніку прадстаўнікі больш чым 30 недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў вызначыліся ў пазыцыі, якую маюць намер адстойваць на маючай адбыцца рэспубліканскай Асамблеі NGO, і якая мусіць стаць грунтам для аб'яднаньня рэгіянальных сілаў. Было вызначана, што абласная асамблея праз выбраную на сходзе Раду бярэ на сябе наступныя абавязкі:

– стварыць надзейную сыстэму абароны сэктару NGO ад вонкавай і ўнутранай небясьпекі;

– наладзіць надзейную сыстэму ўзаемнага інфармаваньня аб працы, ідэях, здабытках і цяжкасьцях;

– спрыяць рэпрэзэнтацыі мясцовых суполак і арганізацыяў паўсюль, дзе выпадае такая магчымасьць, з мэтаю падвышэньня іхніх вядомасьці і аўтарытэту як грунту для эфэктыўнай працы;

– падтрымваць наладжваньне перакрэслых сувязяў у асамблеі і заахвочваць стварэньне доўга- альбо кароткатэрміновых аб'яднаньняў "па інтарэсах" для спалучэньня рэсурсаў, досьведу, талентаў і здольнасьцяў.

Абласны сход прадстаўнікоў NGO выбраў Раду і сваіх прадстаўнікоў на Асамблею беларускую, якімі сталіся Аляксей Колчын (старшыня Рады), Віталь Васількоў і Анатоль Фёдараў.

*Рэдакцыйны **АГЛЯДАЛЬНІК** грамадзкага жыцьця*

## БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

## МОЙ РАДАВОД: Лёс сям'і ў XX стагодзьдзі

### *Конкурс для школьнікаў*

Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш" пры ўдзеле Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства Беларускай школы і Згуртаваньня Беларускай Шляхты абвяшчае конкурс "Мой радавод: Лёс сям'і ў XX стагодзьдзі".

У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных установаў (пачынаючы з 7-й клясы): ліцэяў, гімназіяў, а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная: сачыненьне, эсэ, інтэрвію, калаж з фотаздымкаў, фільм ды інш. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэа-, фотаздымкі) – да яе павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстоўвае працэс дасьледваньня альбо заключае камэнтар да крыніцаў.

Працу пажадана пісаць на беларускай мове, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з дапамогай куратара.

Да працы абавязкова павінна быць далучаная анкета ўдзельніка з прозьвішчам, імём аўтара, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозьвішчам, імём і каардынатамі кіраўніка (пры ягонай наяўнасьці).

Працу трэба дасылаць у адным асобніку да 1 траўня 2001 году (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Менск.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 8 ліпеня 2001 году.

Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзеныя ўмовы конкурсу, можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль па тэлефоне: (8-017) 227-51-09, ці па паштовым адрасе, што пазначаны вышэй.

Жадаем посьпехаў!

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 44. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 9.11.2000 г. а 17.05.